ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# МАСТАЦКІЯ ПОШУКІ БЕЛАРУСКАЙ ПРОЗЫ 1920-х ГАДОЎ І ЕЎРАПЕЙСКІ КАНТЭКСТ

АНЖЭЛА МЕЛЬНІКАВА

***Анатацыя:*** Акрэсліваюцца вызначальныя тэндэнцыі развіцця беларускай літаратуры 1920-х гадоў, разглядаюцца навацыі Кузьмы Чорнага ў галіне мастацкай формы, асэнсоўваецца пераемнасць паміж творамі беларускага празаіка і літаратарамі школы плыні свядомасці.

***Ключавыя словы:*** мадэрнізм, плынь свядомасці, аўтанамізацыя, форма, дыялог.

# THE ARTISTIC SEARCH OF BELARUSIAN PROSE OF THE 1920s AND THE EUROPEAN CONTEXT

***Abstract:*** The article describes the essential trends of the Belarusian literature development in the 1920s, examines Kuźma Čorny's innovations in the field of the art form. The author analyses the continuity of Kuźma Čorny's works and the ones of the stream of consciousness' writers.

***Keywords:*** Modernism, Stream of Consciousness, Autonomisation, Shape, Dialogue.

Перыяд развіцця беларускай літаратуры 1920-х гадоў з'яўляецца знакавым, прадвызначальным для яе далейшага поступу: адбываецца вербалізацыя нацыянальнага духоўнага вопыту, інтэнсіўна засвойваюцца еўрапейскія мастацкія практыкі, выпрацоўваецца стратэгія развіцця літаратуры на будучыню.

Устаноўка на апрабацыю еўрапейскага мастацкага вопыту нашым пісьменствам таго часу – свядомая, мэтанакіраваная. Яна была абумоўлена не толькі патрэбамі літаратурнага развіцця, але і грамадскімі. Найважнейшай задачай было філасофскае, эстэтычнае, мастацкае паглыбленне беларускай літаратуры, пераадоленне правінцыйнасці, этнаграфізму і бытавізму, далучэнне да еўрапейскага кантэксту, што з'яўлялася моцным аргументам на карысць паўнавартаснасці нацыянальнай культуры.

Так, К. Чорны выступаў за *"літаратурны сталічны Мінск, супраць Мінску – як губернскай правінцыі, з кансерватарскімі поглядамі на літаратуру і традыцыямі губернскага маштабу"* (Чорны, 1975: 70).

Паказальна, што першымі пра неабходнасць выхаду беларускай літаратуры на сусветную арэну загаварылі менавіта дзеячы нацыянальна-адраджэнскага руху М. Багдановіч ("За тры гады", 1913) і В. Ластоўскі ("Па свайму шляху", 1914).

Перыяд развіцця нашай літаратуры 1920-х гадоў з'яўляецца адным з самых інтэнсіўных у плане апрабацыі новых прыёмаў і прынцыпаў выяўлення.

Наватарская скіраванасць, арыентацыя на засваенне найлепшых узораў сусветнай літаратуры вылучала дзейнасць літаратурна-мастацкага аб'яднання "Узвышша", што адлюстравана ў канцэпцыі ўзвышэнства ("Камунікат беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання "Узвышша", "Тэзісы", праграмная заява "Ад беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання "Узвышша", артыкулы А. Бабарэкі "З далін на ўзвышшы", "Аквітызм у творчасці Ул. Дубоўкі", "Узвышэнская паэзія: аналіз паняцця", "Паэзія як уяўленне").

Беларускую літаратуру 1920-х гадоў можна акрэсліць як адкрытую эстэтычную сістэму. Вызначальным паказчыкам развіцця нацыянальнага прыгожага пісьменства ў гэты час з'яўляецца стылёвая разнастайнасць, суіснаванне, узаемаўплыў, узаемаўзбагачэнне розных мастацкіх практык. Побач з рэалізмам плённа развіваліся рамантызм, сімвалізм, натуралізм, імажынізм, футурызм, імпрэсіянізм, экспрэсіянізм.

Беларускія літаратары прапанавалі ўласныя авангардныя кірункі і стылі: маладнякізм, аквітызм, вітаізм – паспрабавалі падаць іх тэарэтычнае абгрунтаванне.

Безумоўна, беларускі варыянт мадэрнізму мае сваю спецыфіку развіцця.

Мадэрнісцкія тэндэнцыі ў творчасці беларускіх пісьменнікаў 1920-х гадоў плённа асэнсоўваюцца ў работах І. Багдановіч, П. Васючэнкі, М. Тычыны, В. Жыбуля, В. Максімовіча.

Найбольшым наватарам у галіне мастацкай формы сярод беларускіх празаікаў 1920-х гадоў быў Кузьма Чорны (апавяданні са зборнікаў “Пачуцці”, “Хвоі гавораць”, раманы “Сястра”, “Зямля”).

Навацыі пісьменніка заключаюцца ў змяненні падыходаў да стварэння мастацкага вобраза, змяненні структурнай ролі дыялогу, то бок у мадэрнізацыі эстэтычнай формы.

К. Чорны выкарыстоўвае такія прыёмы, як узнаўленне асобных момантаў душэўнага стану, спалучэнне часу лірычнага з часам эпічным, плынь свядомасці, што вылучае творчасць заснавальнікаў новай літаратурнай эпохі М. Пруста і Дж. Джойса.

Асновай пабудовы вобраза выступае свядомасць героя: апісанне адчуванняў, стану, думак, успамінаў. К. Чорны перадае не толькі ўстойлівыя, выразна акрэсленыя пачуцці і настроі, але і ледзь улоўныя. Вядома, што менавіта мадэрнізм працягнуў адкрыццё літаратуры XIX стагоддзя – чалавечай суб’ектыўнасці.

Гэтыя навацыі ў творчасці К. Чорнага супадалі са зваротам мастацкай літаратуры да выяўлення падсвядомага, адкрытага З. Фрэйдам. Выпрацоўваецца новая форма пісьма, дзе вялікая ўвага надаецца рухомым, няўстойлівым настроям і адчуванням.

У К. Чорнага, як і ў пісьменнікаў школы плыні свядомасці, значная ўвага надаецца феномену памяці, якая ўспрымаецца як пэўны масіў, сховішча чалавечага мінулага, якое мае самадастатковае значэнне.

У творчасці К. Чорнага 1920-х гадоў надзвычай выразныя адзнакі імпрэсіяністычнай паэтыкі. Адным з самых адметных прадстаўнікоў літаратурнага імпрэсіянізму якраз і з’яўляецца М. Пруст.

Для К. Чорнага 1920-х гадоў актуальным было інтуітыўнае спасціжэнне рэчаіснасці: *“І ўсё хацелася пайсці па зямлі, ахваціць яе сабою і сказаць кожнаму: вось я бачу, чую, адчуваю цябе. І пачынаю адчуваць тое, чаго ты і сам, можа, не адчуваў...”* (Чорны, 1972a: 306), *“і хацелася выявіць перад усім тым, што ёсць, што вось адчуваецца яно, гэта жыццё”* (Чорны, 1972a: 308), *“відно было адчуваннем”* (Чорны, 1972b: 474).

Навацыі К. Чорнага заключаюцца і ў змяненні структурнай ролі дыялогу, які дазваляе перадаць саму плынь жыцця, данесці яго шматстайнасць, цякучасць (раманы “Сястра” і “Зямля”). Падобныя навацыі вылучаюць творчасць У. Фолкнера. Скрупулёзная, падрабязная перадача гаворак герояў – імкненне як мага больш поўна і дакладна ўзнавіць быццё. Падабенства паміж творамі амерыканскага і беларускага празаікаў – і ў лакальнасці, аўтаномнасці дзеяння. Гэта не ёсць адзнака мястэчковасці, правінцыйнасці. У творах пісьменнікаў адбываецца выхад за межы лакальнага да ўніверсальнага.

Такім чынам, творчыя пошукі К. Чорнага і пісьменнікаў-мадэрністаў супалі ў паглыбленні цікавасці да ўнутранага свету чалавека, да

працэсаў работы памяці і свядомасці, што прывяло да абнаўлення эстэтычнай формы.

Паглыбленне К. Чорнага ва ўнутраны свет чалавека было абумоўлена не адно мастацкімі задачамі. У беларускага празаіка дадаваліся яшчэ і сацыяльныя фактары: неабходнасць супрацьстаяць утылітарнаму і прагматычнаму погляду на чалавека, які замацоўваўся ў краіне, палітыцыператварэння яго ў "шрубчык". К. Чорны імкнуўся давесці, што чалавек – не "шрубчык", а мэта ўсялякіх пераўтварэнняў, адсюль жаданне пісьменніка паказаць складанасць унутранай арганізацыі чалавека.

Уплыў на будову рамана "Сястра" К. Чорнага мела паэтыка твораў Ф. Дастаеўскага. Героі твораў Ф. Дастаеўскага і рамана "Сястра" К. Чорнага – ідэолагі (тэрмін М. Бахціна). У аснову твораў Ф. Дастаеўскага пакладзены так званы даследчы прынцып. М. Бахцін гаворыць пра дыялагічны тып раманаў Ф. Дастаеўскага, дзе думка паўстае праз "сутыкненне паміж свядомасцю герояў". Момант сутыкнення поглядаў з'яўляецца найважнейшым структурным кампанентам і рамана "Сястра" К. Чорнага.

Пасля разгромных рэцэнзій з боку афіцыйнай крытыкі К. Чорны адышоў ад эксперыментаў у галіне формы.

Творы К. Чорнага дазваляюць не толькі асэнсоўваць шляхі засваення еўрапейскага мастацкага вопыту нашым прыгожым пісьменствам, але і тое, што прапаноўвала ці магла прапанаваць наша літаратура еўрапейскай, калі б яна развівалася натуральным чынам, без гвалтоўнага ўмяшання ў літаратурны працэс.

Такім чынам, уплыў еўрапейскіх мастацкіх практык на беларускую літаратуру ў 1920-я гады быў даволі адчувальны: абнаўленне жанравых, стылёвых форм, барацьба за эстэтычныя каштоўнасці. Мадэрнісцкія тэндэнцыі ў айчыннай літаратуры гэтага часу – праяўленне тэндэнцыі да аўтанамізацыі, згодна з тэрміналогіяй П'ера Бурдзьё (Pierre Bourdieu) (Бурдзьё, 2000), імкненне супрацьстаяць спробам выдаліць беларускую культуру ў этнаграфічную сферу.

***Бібліяграфія***

1. Бурдзье, Пьер (2000). "Поле литературы", *Новое литературное обозрение,* № 45: 22–87.

2. Чорны, Кузьма (1972a). *Вечар.* Мінск: Мастацкая літаратура.

3. Чорны, Кузьма (1972b). *Пачуцці.* Мінск: Мастацкая літаратура.

4. Чорны, Кузьма (1975). *Аўтабіяграфія.* Мінск: Мастацкая літаратура.